**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№29(693) 18 ліпеня 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**Не, тут не жывуць індзейцы Амерыкі! У гэтых вігвамах жывуць мастакі, якія прыехалі на пленэр у Маргі, што на самым ускрайку Галубіцкай пушчы.**
Працяг тэмы на стар.5
*Фота Ул. Скрабатуна.*





Падаць абвестку ў «Вольнае Глыбокае» можна не выходзячы з дому, патэлефанаваўшы на ________ №166

Шаркоўшчынскі раён

# Мілы сэрцу горад

■ Станіслаў Раманчук

**Гісторыя райцэнтра Шаркоўшчына бярэ свой пачатак у XVI стагоддзі з невялікага маёнтка князёў Зянковічаў, вакол якіх расло і павялічвалася мястэчка на берагах ракі Дзісны.**

Аб гэтым узгадвалася днямі, калі ў гарпасёлку адбыліся юбілейныя ўрачыстасці "Люблю цябе, мой гарадок" з нагоды яго 510-годдзя. Да свята падрыхтавалі шэраг розных мерапрыемстваў, з дапамогай спонсараў, мясцовых прадпрымальнікаў выдалі ўпершыню і каляровы фотаальбом пра Шаркоўшчыну на дзвюх мовах з выявамі яе прыгажэйшых і памятных мясцін. Асабліва спадабаліся прайшоўшыя ўрачыстасці на Дзень горада дзецям. Салоны гарадскіх і міжгародных аўтобусаў упрыгожылі лепшыя дзіцячыя малюнкі пераможцаў конкурсу пра юбілей райцэнтра, гэту перасоўную выставу змаглі пабачыць сотні людзей. У мясцовым Цэнтры рамёстваў прайшоў таксама пленэр юных талентаў дзіцячай школы мастацтваў. Знакавай і прыемнай падзеяй для 7-тысячнага гарадка стала адкрыццё сучаснай пляцоўкі са штучным газонам для гульні ў міні-футбол па праекце "Родная сторона детям". Пасля заканчэння цырымоніі і першага матча першы намеснік старшыні Беларускай федэрацыі футбола Сяргей Сафар'ян уручыў юным спартсменам сувеніры і камплект футбольных мячоў. Асноўныя ж урачыстасці юбілею пачаліся масавым шэсцем з цэнтра ў парк, дзе адбыўся гала-канцэрт, дзіцячы кірмаш, фестываль сельскіх падворкаў, а лепшыя народныя майстры краю спецыяльна да свята вырабілі і прадэманстравалі ўнікальны абярог Шаркоўшчыны даўжынёй амаль 8 метраў.

Браслаўскі раён

# Яшчэ адзін сырзавод

■ Чэслаў Якубовіч

**З пачатку года толькі на Віцебшчыне ў развіццё эканомікі ўклалі ўжо каля 8 трыльёнаў рублёў інвестыцый, большая частка з якіх пайшла на мадэрнізацыю і тэхпераўзбраенне прамысловых прадпрыемстваў.**

Па адпаведнай дзяржаўнай праграме завяршылі і абнаўленне асноўных фондаў Браслаўскага філіяла Глыбоцкага МКК. Амаль 200 млрд. рублёў пайшло на тое, каб у азёрным краі з'явіўся сучасны міні-сырзавод па выпуску ў суткі 12 тон цвёрдых і мяккіх сыроў. Дагэтуль тут таксама займаліся іх вытворчасцю, аднак цяпер выпуск смачнай прадукцыі вырасце ў 6 разоў. Ранейшую вытворчасць стала проста не пазнаць, а генпадрадчык, буйное ААТ "Нафтазаводмантаж" з Наваполацка ўзвёў практычна новае прадпрыемства, якое ўдалося аснасціць сучасным абсталяваннем вытворчасці Італіі і Польшчы. Па разліках, яно павінна акупіцца дзесьці праз 6 гадоў, а пакуль на выраб сыроў спатрэбіцца ў суткі да 130 тон малака. Цалкам будзе задзейнічана мясцовая сыравінная зона, а на філіяле МКК наблізіліся да амаль безадходнай тэхналогіі, бо сыраватка будзе сушыцца, а на аснове слівак пачнуць выпускаць па праграме імпартазамяшчэння і слівачна-тварожную пасту. Дарэчы, вобласць робіцца адным з вядучых вытворцаў сыру ў Беларусі, бо паспяхова дзейнічае абноўлены Верхнядзвінскі масласырзавод. У жніўні таксама будзе запушчаны яшчэ больш магутны сырзавод у Паставах коштам 17 мільёнаў еўра. Ён разлічаны на выпуск на еўрапейскім абсталяванні па перадавых тэхналогіях ужо да 20 тон сыроў у суткі, а гэта цяпер адзін з самых запатрабаваных рынкам прадуктаў харчавання.

Пастаўскі раён

# З вачэй далоў

■ Кастусь Александровіч

**Дзясяткі мільярдаў долараў патраціла апошнім часам дзяржава на праграму адраджэння беларускай вёскі.**

Аднак, на жаль, не ўдалося спыніць няўхільны працэс старэння і вымірання сельскай мясцовасці. Вось і ў адным з самых густанаселеных у вобласці Пастаўскім раёне зараз колькасць няпрацаздольнага насельніцтва перавысіла 40 % у структуры яго жыхароў. Толькі летась тут у глыбінцы знеслі яшчэ 27 пустых і закінутых хат. Праўда, 13 гараджан напісалі заявы ў сельвыканкамы, што будуць выкарыстоўваць былыя родныя дамы для часовага пражывання. Паступова гэты маляўнічы і прыгожы край з мноствам азёр і лясоў пусцее, бо за некалькі гадоў было знесена ўжо болей паўтысячы некалі дабротных панадворкаў, на якіх кіпела жыццё. Вяскоўцы старэюць, не маюць сіл, як раней, займацца гаспадаркай і за апошні год развіталіся з яшчэ 152 каровамі-карміцелькамі і 50 конямі. Пры гэтым любоў да працы на сваёй зямлі застаецца ў душах людзей старэйшага пакалення, бо яны летась прадалі дзяржаве 4,5 тысячы тон малака, у сярэднім болей чым па 2,6 тоны сыравіны на адну карову. Каб лягчэй пражыць жыхарам глыбінкі, для іх 798 гектараў зямель увялі ў палі агульнага севазвароту, а апрацоўкай палеткаў заняліся гаспадаркі. Адзінае, што з цягам часу колькасць калгасаў тут можа быць зведзена да мінімуму: 5 слабейшых чакае рэарганізацыя і далучэнне да больш моцных суседзяў.

# Аб самым надзёным

## ПАСЛЯ ПРАТЭСТАЎ БЕЛАРУСКІМ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАМ ДАЗВОЛІЛІ ЯШЧЭ НЕЙКІ ЧАС ГАНДЛЯВАЦЬ ПРАДУКЦЫЯЙ БЕЗ СЕРТЫФІКАТАЎ ЯЕ БЯСПЕКІ

■ Аляксандр Цішкевіч

**Застаецца толькі назіраць, як пойдуць справы далей праз год, можа стане неспакойна і на расійскіх, казахскіх рынках, калі там мясцовых гандляроў прымусяць мець дакументы адпаведнасці якасці нават на дробныя партыі тавараў.**

Сёлета чамусьці стала прыходзіць шмат трывожных паведамленняў з розных куткоў краіны на фоне няпростай эканамічнай сітуацыі. З пачатку года ніводзін рэгіён Беларусі не дасягнуў запланаваных тэмпаў эканамічнага росту. А ў шэрагу раёнаў для насельніцтва сапраўдная бяда, бо на Віцебскую і Мінскую вобласці, вельмі верагодна, што пачала распаўсюджвацца свіная чума. Каб справіцца з хваробамі свіней, іх трэба масава знішчаць, іншага выйсця проста не існуе. А тут яшчэ цыгарэты для беларускіх курцоў зноў падаражэлі, а суседняя Літва забараніла ўвоз некаторых нашых прадуктаў харчавання.

Неспакойна было напрыканцы чэрвеня ў многіх буйных гарадах Беларусі, дзе не працавалі многія рынкі і гандлёвыя цэнтры. Страйк сярод прадпрымальнікаў, якія гандлююць таварамі лёгкай прамысловасці выклікаў прыняты адпаведны тэхрэгламент Мытнага саюза. Характэрна, што ў той самы час нічога падобнага не назіралася на аналагічных рынках у самой Расіі, а ў Казахстане гандляры баўлямі ў асноўным з кітайскім таварам, падобна на тое, што нічога і не чулі, што трэба іх здаваць за грошы на нейкія аналізы і потым яшчэ маркіраваць.

А вось на беларускай тэрыторыі, як вядома, усёабдымны кантроль і пільна сочаць, як рэалізуюцца набытыя партыі закупленых тавараў. Сам жа тэхрэгламент, што цікава, уступіў у сілу даўно, з 1 ліпеня 2012 года. Праўда, гэты дакумент прадугледжваў два пераходныя перыяды. Галоўнае, што да 1 ліпеня 2014 года РБ, РФ і Казахстан дамовіліся, што дробныя гандляры захаваюць права прадаваць прадукцыю з прымяненнем унутраных законаў і па дакументах ацэнкі адпаведнасці.

Аднак беларусы, як і за савецкім часам, стараюцца быць у авангардзе падзей, беларускі Дзяржстандарт пераходны перыяд скараціў да 1 ліпеня сёлета, што і выклікала масавыя хваляванні і акцыі пратэсту, у некаторых месцах нават па некалькі разоў. Малы бізнес, сапраўды, можна зразумець, паколькі людзі страцяць грошы на дадатковыя экспертызы, а некалькі ўзораў тавараў увогуле будуць знішчаны. Грамадскае аб'яднанне прадпрымальнікаў "Перспектыва" нават пачала збіраць подпісы пад зваротам да беларускага лідара.

Дзелавыя людзі хацелі б дабіцца, каб дадатковыя траты панеслі па выкананні тэхрэгламента дзяржавыімпарцёры і акрэдытавалі замежныя лабараторыі,да прыкладу ў тым жа Кітаі, каб вытворцы адгружалі свае тавары ўжо з маркіроўкай ЕАС (Адпаведнасць еўразійскім стандартам). З аднаго боку быццам клапоцяцца аб людзях, каб тая ж бялізна, шкарпэткі не нашкодзілі скуры чалавека (тэхрэгламент патрабуе яе абавязковую сертыфікацыю). Да адзення 2-га і 3-га слою патрабуюць дэкляраванне адпаведнасці якасці тавара, але ўсё гэта грошы, бо тавар трэба завезці на лабараторную праверку па механічным, хімічным і біялагічным паказчыках.

У выніку ў нас пасля даволі шматлікіх акцый пратэсту (баставала да 70 % ІП) прынялі кампрамісны варыянт: сертыфікаты на ўвесь тавар у фірм (ПУПаў) будуць патрабаваць з 1 лістапада ў гэтым годзе, а дробныя гандляры павінны выконваць тэхрэгламент з 1 ліпеня будучага года. У любым выпадку ганлявацць патрэбна цывілізавана, але і ад нас, спажыўцоў, многае залежыць. Трэба не быць лохамі, ганяцца за таннымі таварамі, каб не набыць нядобраякасны тавар, але і прадавец на рынку павінен папярэдзіць, што прадукцыя не праверана, як патрабуе тэхрэгламент.

Застаецца толькі назіраць, як пойдуць справы далей праз год, можа стане неспакойна і на расійскіх, казахскіх рынках, калі там мясцовых гандляроў прымусяць мець дакументы адпаведнасці якасці нават на дробныя партыі тавараў. Нашы ж улады працягваюць захоўваць аптымізм і сцвярджаць, што малы і сярэдні бізнес у Беларусі развіваюцца дынамічна. Праўда, пасля трагічнай гісторыі з гібеллю маладой пацыенткі ў сталічным "Экамедсэрвісы" прыпынілі дзеянні ліцэнзій у 12 з правераных 25 прыватных медыцынскіх цэнтраў.

Пакуль хваляваліся рынкі, пэўныя расчараванні напаткалі многіх маладых суайчыннікаў, паколькі на цэнтралізаваным тэсціраванні выбыў з гонкі па паступленні ў ВНУ кожны трэці, хто не пераадолеў мінімальны прахадны бар'ер па матэматыцы і фізіцы. А вось чэкавую прыватызацыю для беларусаў прадоўжылі яшчэ на 3 гады, бо на руках у нашых грамадзян яшчэ знаходзіцца каля 170 млн. чэкаў "Маёмасць".

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 18.07.13 | | | | Пятніца 19.07.13 | | | | Субота 20.07.13 | | | | Нядзеля 21.07.13 | | | | Пнд.22.07.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +13 | +16 | +20 | +20 | +15 | +18 | +19 | +16 | +10 | +14 | +16 | +16 | +11 | +15 | +17 | +16 | +12 | +15 | +16 |
| Ціск | 748 | 749 | 749 | 748 | 746 | 744 | 741 | 743 | 744 | 744 | 745 | 745 | 745 | 745 | 744 | 744 | 743 | 743 | 743 |
| Вільготнасць | 95 | 68 | 61 | 64 | 86 | 81 | 85 | 58 | 84 | 77 | 60 | 59 | 78 | 77 | 63 | 72 | 91 | 77 | 59 |
| Вецер м/сек | 3 Пн-З | 4 Пн-З | 4 Пн-З | 5 Пд-З | 5 З | 6 З | 7 З | 6 Пн-З | 5 Пн-З | 7 Пн-З | 7 Пн-З | 3 Пн-З | 5 Пн-З | 7 Пн-З | 8 Пн-З | 5 Пн-З | 5 Пн-З | 8 Пн-З | 8 Пн-З |

## Дзень за днём

**Ніводзін рэгіён Беларусі не дасягнуў сёлета прагнозных тэмпаў эканамічнага росту. Па ўсіх групах тавараў, як пацвердзілі спецыялісты Мінэканомікі РБ, адбываецца аслабленне пазіцый Беларусі на знешніх рынках. Зноў не знайшлося інвестараў купіць за 1 млрд. долараў кампанію МТС. На большасці буйнейшых рынкаў і гандлёвых цэнтраў краіны адбыўся страйк прадпрымальнікаў, якія часова перамаглі. Увядзенне тэхрэгламенту Мытнага саюза перанеслі на 1 лістапада. Колькасць насельніцтва Беларусі працягвае скарачацца, у сярэднім на адну тысячу і болей чалавек кожны месяц.**

# Важнейшыя навіны свету

**Нарвегія.** Па пастаўках газу ў Еўропу тысяча ўпершыню абагнала Расію з-за больш прывабных, чым у "Газпрама" цэн, летась нарвежцы паставілі 106 млрд. куб. газу ў ЕС.

**Іран.** Іранцы нарэшце запусцілі ў пастаянную эксплуатацыю першую на Блізкім Усходзе атамную электрастанцыю-доўгабуд ў Бушэры магутнасцю 1 тысячу мегават.

**Японія.** Вучоныя краіны распрацавалі новую вакцыну супраць грыпу ў выглядзе пластыра дыяметрам 1 сантыметр, які складаецца з 250 мікраіголак з кіслатой і самой вакцыны.

**Егіпет.** Гадавіну праўлення прэзідэнта-ісламіста М. Мурсі егіпцяне адзначылі масавымі акцыямі пратэсту, у ходзе сутычак былі ахвяры, мільёны патрабуюць яго перавыбараў.

**Бельгія.** Міністры фінансаў дзяржаў ЕС дамовіліся аб адзіным механізме выратавання і падтрымкі банкаў, якія апынуліся на грані банкруцтва, і стварылі антыкрызісныя фонды.

**Катар.** Эмір краіны шэйх Хамад бін Халіфа аль-Тані адрокся ад трону пасля 18 гадоў кіравання эміратам, які расквітнеў, пабагацеў, і перадаў уладу сыну, шэйху Тамілу.

**Італія.** На тэрыторыі краіны па лініі Інтэрпола быў затрыманы былы гендырэктар холдынгавай кампаніі "Пінскдрэў" Лоран Арыніч, летась Польшча не выдала яго Беларусі

**Індыя.** У выніку моцных мусонных дажджоў і паводкі, апоўзняў на поўначы краіны загінула болей 6 тысяч чалавек, дзясяткі тысяч прыйшлося эвакуіраваць з зоны бедства.

**Польшча.** Сотні дзяржслужачых эвакуіравалі ў 6 буйнейшых гарадах краіны пасля лжэ паведамленняў аб бомбах, спецгрупа паліцыі пачала першыя затрыманні зламыснікаў.

**Казахстан.** У цэнтры былой сталіцы краіны Алма-Аты ў выніку ДТЗ узарваўся днём бензавоз, загінуў яго кіроўца, згарэлі 20 кватэр і 9 прыпаркаваных з домам машын.

**Мексіка.** Ва ўзросце 100 гадоў мексіканка Мануэла Веласкес закончыла пачатковую школу для пажылых людзей, ёй велмі падабалася там вучыцца па просьбе свайго ўнука.

**Японія.** Карпарацыя "Sony" выпусціла навейшы смартфон з экранам 16,3 см у дыяганалі, які не прапускае ваду ў дысплей, ён стаў канкурэнтам прадукцыі лідара - "Samsunga".

**Ватыкан**. Папа Рымскі Францыск пацвердзіў, што Беларусь шляхам павагі, дыялогу і ўзаемапаразумення з дапамогай Ватыкана зможа палепшыць свае адносіны з Захадам.

**Расія.** Суд у Маскве пакараў 3 гадамі турмы праваслаўнага святара Ілію, які п'яны на аўтамабілі стаў віноўнікам ДТЗ, у якім загінулі двое чалавек у сустрэчным аўто.

**Іспанія.** Самы высокааплатны футбаліст свету 26-гадовы Ліанель Месі перавёў 10 млн. еўра на рахунак падатковай службы краіны, яго папракалі, што ўтаіў 4 млн. даходаў.

# Беларусь – краіна старых



**Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Нацыянальным статыстычным камітэце, сярэдні ўзрост насельніцтва Беларусі - 39,8 гады, прычым сярэдні ўзрост мужчыны - 37 гадоў, жанчыны - 42,2 гады.**

Для параўнання: сярэдні ўзрост жыхароў планеты складае - 29 гадоў, Еўропы - 39,9 гады.

У Белстате адзначылі, што з 1990 гады сярэдні ўзрост насельніцтва рэспублікі павялічваўся. Такім чынам, кожнае дзесяцігоддзе сярэдні беларус становіцца старэй прыблізна на 1,8 гады, пры гэтым жанчыны "старэюць" на 1,9 гады, мужчыны - на 1,5 гады.

Сярэдні ўзрост гараджаніна - 38,5 гады, за апошняе дзесяцігоддзе гарадскі жыхар пасталеў на 2,4 гады. Сярэдні ўзрост сельскага жыхара - 44,1 гады, за апошняе дзесяцігоддзе вясковец пасталеў на 1,5 гады.

Сярэдні ўзрост насельніцтва абласцей адрозніваецца ад сярэдняга ўзросту насельніцтва па рэспубліцы. На працягу шматлікіх гадоў самы "малады" ў Беларусі - горад Менск, сярэдні ўзрост сталічных жыхароў - 38,1 гады. На другім месцы ў гэтым рэйтынгу Брэсцкая вобласць (39,5 гады), на трэцім - Гомельская вобласць (39,8 гады). У Магілёўскай вобласці сярэдні ўзрост жыхароў складае 40,1 гады, у Гарадзенскай - 40,3, у Менскай - 40,6. Самы стары" рэгіён - Віцебская вобласць (41,2 гады).

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** На адным з флагманаў індустрыі РБ, сталічным МАЗе продаж тэхнікі за мяжу з 2009 года скараціўся ў 2,5 разы, рэалізацыя машын на рынку Расіі знізілася ў 8,5 разы.

**Ліда.** Мясцовы аэрадром выбрала Расія для дыслакацыі сваёй першай авіяцыйнай базы ў Беларусі, аснашчанай мадэрнізаванымі самалётамі-знішчальнікамі Су-27СМ3.

**Мінск.** Цяперашнім кіраўніцтвам крiаны, як заявіў прэс-сакратар МЗС РБ А. Савіных, перспектыва ўступлення Беларусі ў Еўрасаюз не разглядаецца, палова беларусаў за ЕС.

**Рэчыца.** Міліцыя затрымала студэнта 5-га курса мясцовага педагагічнага ўніверсітэта з Расіі, які ў лясным масіве забіў сваю сакурсніцу, яны доўга сябравалі, а потым спынілі адносіны.

**Маладзечна.** Падчас дэмантажу ля гарпарка знішчылі помнік "Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі", устаноўлены былым мэрам Г. Карпенка раней у цэнтры горада.

**Мінск**. На 10 гадоў можа трапіць у турму 28-гадовы двойчы судзімы мінчанін, які з пнеўматычнага пісталета днём раніў з аўтамабіля некалькі чалавек ля станцыі метро.

**Іўе.** У шэрагу вёсак раёна адбыўся падзёж свіней на панадворках вяскоўцаў, а ў вёсцы Чапуні выявілі ачаг афрыканскай чумы, на тэрыторыі вакол увялі санітарны каранцін.

**Лагойск.** Ля вёскі Рагозіна завяршаюць будаўніцтва ўнікальнай у Беларусі фермы на сонечных батарэях і рэзервовай сістэмай запуску энергіі ў хмарныя дні і зімой.

**Гродна.** Да ААТ "Гродна Азот" далучылі ўжо 5 адстаючых калгасаў Свіслацкага і 4 – Іўеўскага раёнаў, выйсці на працу без страт сельгасфіліялы не могуць (уклалі 64 мільярды ).

**Мінск.** Са скандалам буйны сталічны ўніверсам "Талін" стаў супермаркетам "Еўраопт", 142-ім аб'ектам сеткі, яго экс-дырэктар В. Янушкоў назваў працэс рэйдэрскім захопам.

**Магілёў.** Пры атрыманні хабару ў памеры 2700 долараў супрацоўнікі КДБ затрымалі намесніка старшыні суда Кастрычніцкага раёна, пад варту ўзялі і адваката з грашыма.

**Мінск.** Беларуская праваслаўная царква, як заявіў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы экзарх усяе Беларусі Філарэт, выступае за адмену смяротнага пакарання, бо для хрысціян гэта грэх.

**Нясвіж.** У мясцовым палаца-замкавым комплексе падрыхтавалі 3 новыя экспазіцыі, адна з іх - у аднаўленай ратушы, у музеі-запаведніку будзе і інтэрактыўная экспазіцыя.

**Мінск.** Беларусь падасць заяўку на правядзенне ў сталіцы юбілейнага чэмпіянату Еўропы па футболе 2020 года, які ўпершыню прымуць 13 гарадоў з 13 дзяржаў кантынента

**Маладзечна.** Да 7 гадоў пазбаўлення волі пагражае 23-гадоваму жыхару вёскі Кавальцы, які напіўся гарэлкі і за адну ноч угнаў 4 аўтамашыны, раней ён быў судзімы за крадзяжы.

# Праблемныя дамы ў Віцебскай вобласці будуць уведзены ў эксплуатацыю да канца 2013

■ **Кацярына Марковіч – БелТА**

**У Віцебскай вобласці 35 шматкватэрных жылых дамоў, будаўніцтва якіх ажыццяўляецца з перавышэннем нарматыўных тэрмінаў, будуць уведзены ў эксплуатацыю да канца 2013 года.**

Прагэта паведаміў намеснік старшыні Віцебскага аблвыканкама Анатоль Дзіулін на чарговым пасяджэнні рабочай групы па праблемных пытаннях у будаўнічай галіне, паведамляе карэспандэнт БелТА.З 35 праблемных дамоў 14 знаходзяцца ў Віцебску, 6 - у Наваполацку, 3 - у Полацку, 4 - у Оршы і 8 будуюцца ў раёнах Віцебскай вобласці. Паводле яго дадзеных, на 1 ліпеня бягучага года тры з іх ужо ўведзены ў эксплуатацыю. Астатнія дамы, нягледзячы на розную ступень гатоўнасці, таксама знаходзяцца ў праграме ўводу на 2013 год. «Сёння ўсе звароты грамадзян па гэтых праблемных жылых памяшканнях разгледжаны, грамадзяне праінфармаваныя, што будаўніцтва гэтых шматкватэрных дамоў завяршыцца да канца гэтага года», - сказаў Анатоль Дзіулін, падкрэсліўшы, што бярэ пад асабісты кантроль і персанальную адказнасць за ўвод гэтых дамоў у намечаныя тэрміны. Прадстаўнік Віцебскага аблвыканкама таксама паведаміў, што згодна з устаноўленым урадам заданнем у Віцебскай вобласці ў гэтым годзе будзе пабудавана 600 тыс. кв.м жылля.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На мяжы банкруцтва апынуўся мясцовы домабудаўнічы камбінат, даўгі ДБК дасягнулі 300 мільярдаў рублёў, доўгабудамі сталі ў вобласці 136 новых жылых дамоў.

**Полацк.** Малочны камбінат прывёз з 20-й Міжнароднай выставы харчавання ў Маскве "Прадэкспа-2013" тры залатыя медалі і столькі ж дыпломаў за свае сыркі, кефір і малако.

**Орша.** На базе Інстытута лёну ў раёне працавала 2 дні міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Льнаводства: рэаліі і перспектывы" з удзелам вучоных з 4-х краін Еўропы.

**Глыбокае.** У сотню самых прыбытковых ААТ Беларусі зноў увайшоў мясцовы малочнакансервавы камбінат, на ім працуе 945 чалавек, летась выручка ад рэалізацыі склала 774 мільярды рублёў.

**Верхнядзвінск.** У прыгараднай вёсцы Яніна мясцовы масласырзавод адкрыў сваё ўтульнае кафэ-магазін " Со вкусом", яшчэ адзін аб'ект прыдарожнага сервісу ў раёне.

**Наваполацк.** У горадзе прайшла 40-я калегія Пагранічнага камітэта Саюзнай дзяржавы РФ і РБ, Полацкі пагранічны атрад сёлета затрымаў ужо 94 нелегалы пры пераходзе граніцы.

**Расоны.** Днём на дарозе паблізу вёскі Глоты сутыкнуліся лоб у лоб дзве іншамаркі Mercedes і Kia, аднаго з вадзіцеляў прыйшлося дэблакіраваць з дапамогай спецыяльнай тэхнікі.

**Віцебск.** На вачах у прахожых на выхадныя з адкрытага з-за спёкі акна дома з 9-га паверха выпаў і загінуў 3-гадовы малыш. Няшчасны выпадак адбыўся з-за таго, што ўвагу маці адцягнула меншае дзіця.

**Талачын.** Ноччу на неахоўваемай аўтастаянцы ля вёскі Рыжычы абакралі грузавы аўтамабіль з Польшчы, адкуль двое беспрацоўных з Оршы скралі 9 скрынь касметыкі.

**Ушачы.** Супраць памочніка ляснічага Глыбачанскага лясніцтва распачалі крымінальную справу, ён дзеля прэміі штрафаваў невінаватых знаёмых і за іх сам аплочваў штрафы.

**Ш а р к о ў ш ч ы н а .** Раніцай ля вёскі Валожынкі пад коламі аўтамабіля загінула ў ДТЗ 4-х гадовая дзяўчынка, яе бабуля вяла ў дзіцячы сад, калі на іх наехаў на мосце 24-гадовы вясковец.

**Віцебск.** За гандаль клубніцамі без дзяржаўнай рэгістрацыі падатковая інспекцыя Кастрычніцкага раёна арыштавала аўтамабіль жанчыны, з якой прадаваліся ягады, вагі і тавар на 17 мільёнаў рублёў.

**Полацк.** Міліцыя затрымала 67-гадовага жыхара вёскі Казьянкі, які каля апоўначы падпаліў дом сваёй 87-гадовай маці, труп старой знайшлі пасля тушэння пажару.

**Віцебск.** Незадавальненне гарадскіх камуністаў выклікаў пачатак санітарнага ўдалення старых ёлак, пасаджаных паўстагоддзя назад вакол помніка лідара бальшавікоў Леніна.

**Шаркоўшчына.** У гэтым раённым цэнтры па праекце "Родная Сторона детям" урачыста адкрылі новенькае поле са штучным пакрыццём для гульняў усім жадаючым у міні-футбол.

*Служба інфармацыі "ВГ".*



Таццяна Беланогая

■ Іна СНЯЖКОВА.
*www.budzma.org.*
*Фота Альфрэд Мікус, Карына Радзюш.*

# Ветліва і цёпла сустрэлі мяне слухачы

4-6 ліпеня ў Будславе адбыліся ўрачыстасці, прысвечаныя 400-годдзю знаходжання ў касцёле цудатворнага абраза Маці Божай. У невялікім мястэчку Мядзельскага раёна сёлета сабраліся больш за 40 тысяч вернікаў.

У святочнай Імшы ўдзельнічалі спецыяльны легат Святога Айца Францішка старшыня Папскай рады па міжрэлігійным дыялогу кардынал Жан-Луі Таран, Апостальскі Нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроцці, мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч і іншыя высокапастаўленыя асобы.

У гэтыя дні да Маці Божай Будслаўскай маліліся і ў Лучаі. У нядзелю, 7 ліпеня, у касцёле Св. Юды Тадэвуша адбылася Імша. Падчас яе вернікі звярнуліся да заступніцы Беларусі з просьбамі пра апеку над нашай краінай. Пасля Імшы адбылася працэсія.

Закончыўся вечар канцэртам спявачкі Таццяны Беланогай. Яна выканала як уласныя творы, так і песні на словы Яўгеніі Янішчыц, Анатоля Сыса, Дануты Бічэль-Загнетавай і іншых таленавітых беларускіх паэтаў.

Пасля яна падзялілася ўражаннямі ад паездкі на Пастаўшчыну: "Дарога да Лучая вядзе праз адзін з самых прыгожых рэгіёнаў Беларусі, дзе жывуць вельмі добрыя людзі. І надзіўна, што сярод гэтай прыгажосці з'явіўся велічны будынак незвычайнага касцёла. Лучай быў адным з любімых мясцін Эльжбеты Агінскай, якая набыла Лучай у 1731 годзе. Тут яна заснавала астранамічную абсерваторыю Віленскага ўніверсітэта, пабудавала шыкоўны палац у стылі класіцызму.

Ветліва і цёпла сустрэлі мяне слухачы. У сваёй праграме я прадставіла песні хрысціянскай тэматыкі, песні на вершы Яўгеніі Янішчыц. Мяне вельмі ўразіла акустыка ў Лучайскім касцёле. Напэўна, само ўсведамленне, што касцёлу амаль 250 гадоў, надавала чароўную атмасферу канцэрту. Падчас выступу ў касцёле было прыкладна 50 чалавек. На святочную імшу і на канцэрт слухачы прыехалі з Шаркаўшчыны, з Наваполацку.

Падчас канцэрту былі праведзеныя конкурсы. Трэба было пералічыць 10 лепшых адметных чалавечых якасцяў. Сярод лепшых прагучалі Вера, Надзея, Любоў, рашучасць, мужнасць, аптымізм.

Удзельнікі конкурсаў атрымалі падарункі ад кампаніі "Будзьма беларусамі!", у межах якой і адбыўся выступ.

Мяне яшчэ кранула тое, што зараз над вежамі касцёла гучыць "Паланэз Агінскага", нагадваючы пра вялікі род Агінскіх, пра любоў да роднага Краю"."



# Праграма «Вішнёвага фэсту» ў Глыбокім

**21 ліпеня (нядзеля)**

**9.00-13.30** Вішнёвы кірмаш.
***Калгасны рынак (вул. Фізкультурная).***
**11.30** Адкрыццё кулінарнай выставы «Вішнёвы рай».
***Супермаркет "Цэнтральны".***
**13.00** Адкрыццё вернісажу і прэзентацыя відэафільма «Вішнёвая мяцеліца».
***Гарадскі цэнтр культуры.***
**13.30-14.30** Выступленне ансамбля народнай музыкі «Бяседа».
***Цэнтральная плошча.***
**15.00-17.00** Навукова-практычная канферэнцыя.
***Зала пасяджэнняў Глыбоцкага раённага выканаўчага камітэта.***
**17.00-17.30** Адкрыццё скульптуры "Вішанька". Святочнае шэсце.
***Вуліца. Леніна, д.30 а.***
**17.00-21.00** Працуе «Горад майстроў».
***Цэнтральная плошча.***
**17.30-19.30** Урачыстае адкрыццё «Вішнёвага фестывалю». Конкурс «Вішнёвая каралева».
***Цэнтральная плошча.***
**19.30-21.00** Канцэртная праграма «Вішанькі-чарэшанькі» з удзелам калектываў мастацкай самадзейнасці раёна.
**Цэнтральная плошча.**
**21.00-22.00** Вішнёвая дыскатэка.
***Цэнтральная плошча.***

**22 – 26 ліпеня**

**18.00-20.00** Гульні, конкурсы, атракцыёны.
***Дзіцячая пляцоўка "Брыганціна".***
**19.00-21.00** Праца маладзёжнай пляцоўкі.
***Цэнтральная плошча.***

**22 ліпеня (панядзелак)**

**17.00-19.00** Бібліятэчны калейдаскоп. «О вишне румяной замолвите слово».
***Цэнтральная раённая бібліятэка.***

**23 ліпеня (аўторак)**

**17.00-20.00** Конкурсные праграмы «Спартыўная вішанька», «Вішнёвы марафон».
***Гарадскі стадыён.***

**24 ліпеня (серада)**

**12.00-14.00** Вішнёвыя пасядзелкі клуба пажылых людзей «Эдэльвейс» і «Сударушкі».
***Гарадскі цэнтр культуры.***

**25 ліпеня (чацвер)**

**14.00-21.00** Дзень кіно «Вішнёвая кінастужка».
***Гарадскі цэнтр культуры.***

**26 ліпеня (пятніца)**

**10.00-16.00** Інвестыцыйны форум.
***Дом культуры (вул. Камуністычная, 10).***
**17.30-20.30** Святочная праграма раённай прафсаюзнай арганізацыі работнікаў дзяржаўных і іншых устаноў «Нам – 50». Вішнёвы кірмаш.
***Цэнтральная плошча.***

**27 ліпеня (субота)**

**10.00-16.00** Інвестыцыйны форум.
***Дом культуры (вул. Камуністычная,10).***
**10.00-18.00** Свята кветак.
***Цэнтральная плошча.***
**10.00-18.00** Агляд-конкурс падвор'яў «Вишнёвое изобилие».
***Вуліцы Энгельса і Леніна.***
**13.00** Гашэнне паштовай маркі ў гонар «Вішнёвага фестывалю» ў г. Глыбокае спецыяльным паштовым штэмпелем.
***Цэнтральная плошча.***
**14.00-15.00** Урачыстая рэгістрацыя шлюбу «Вішнёвае вяселле».
***Цэнтральная плошча.***
**15.00-16.30** Святочны канцэрт.
***Цэнтральная плошча.***
**17.00-17.30** Урачыстае закрыццё «Вішнёвага фестывалю».
***Цэнтральная плошча.***
**17.30-19.30** Выступленне калектываў мастацкай самадзейнасці Падсвільскага гарпасялковага Дома культуры. Аўкцыён «Вішнёвы пірог».
***Цэнтральная плошча.***
**20.00-23.00** Дыскатэка «Вішнёвыя рытмы».
***Цэнтральная плошча.***
**23.00** Святочны феерверк.
***Цэнтральная плошча.***

**Зарплата кіраўнікоў камерцыйных арганізацый з 1 верасня не павінна перавышаць больш як у 8 разоў сярэднюю заработную плату па прадпрыемстве.**

# З 1 верасня кіраўнікам камерцыйных арганізацый абмяжуюць памер заробкаў

Каэфіцыент суадносін сярэдняй заработнай платы кіраўніка камерцыйнай арганізацыі незалежна ад формы ўласнасці і сярэдняй заработнай платы па арганізацыі ў цэлым не можа перавышаць 8,0. Такое рашэнне ўтрымліваецца ў пастанове Савета міністраў № 597 ад 8 ліпеня 2013 года, апублікаванай на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале. Яно набывае моц 1 верасня 2013 года.

Згодна з дакументам, рашэнне аб вызначэнні пэўнага памеру каэфіцыента прымаецца органам, з якім заключылі кантракт, калі іншае не ўстаноўлена прэзідэнтам.

Пры гэтым у дачыненні да кіраўнікоў дзяржаўных арганізацый і арганізацый, у статутным фондзе якіх доля ўласнасці дзяржавы складае больш як 50%, уключаючы банкі, гэты каэфіцыент узгадняецца: да 6,0 уключна — з органам, якія ажыццяўляюць уладальніцкі нагляд; больш як 6,0 і да 8,0 уключна — з органам, які ажыццяўляе ўладальніцкі нагляд, і прэм'ер-міністрам.

Пры невыкананні па выніках паўгоддзя двух і больш паказчыкаў прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця, даведзеных ва ўстаноўленым парадку, каэфіцыент устанаўліваецца не больш як 4,0 уключна.

У наступным каэфіцыент, вызначаны ў кантракце з кіраўніком камерцыйнай арганізацыі, устанаўліваецца пры выкананні за квартал усіх паказчыкаў прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця, даведзеных ва ўстаноўленым парадку.

Пры разліку каэфіцыента не ўлічваюцца дзяржпрэміі, гадавыя бонусы, матэрыяльная дапамога і шэраг іншых выплат.

«Кіраўнікам арганізацый незалежна ад формы ўласнасці не налічваюцца і не выплачваюцца ўсе віды прэмій, бонусаў і ўзнагарода па выніках працы за год пры наяўнасці страты ад рэалізацыі прадукцыі, тавараў (работ, паслуг) за справаздачны перыяд у параўнанні з папярэднім перыядам па арганізацыі ў цэлым і (ці) завінавачанасці па выплаце заработнай платы», — гаворыцца ў пастанове.

Саўмін рэкамендуе ўласнікам маёмасці арганізацый недзяржаўнай формы ўласнасці, у тым ліку арганізацый, у статутным фондзе якіх доля ўласнасці дзяржавы складае менш як 50 працэнтаў, устанаўліваць умовы аплаты працы кіраўнікоў у адпаведнасці з палажэннем аб умовах аплаты працы кіраўнікоў дзяржаўных арганізацый і арганізацый з доляй уласнасці дзяржавы ў іх маёмасці, зацверджанай гэтай пастановай.

*Марына Носава, БелаПАН*

# Міністр культуры назваў тройку топавых беларускіх фестываляў

**Міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў у ходзе анлайн-канферэнцыі на сайце БЕЛТА назваў тройку топавых айчынных фестываляў міжнароднага ўзроўню - «Лістапад», «Панарама» і «Беларуская музычная восень».**

«Я назаву іх не ў тым парадку, у якім яны праводзяцца на працягу года, а раздзялю па таму ці іншаму віду мастацкай культуры», – адзначыў Барыс Святлоў. На яго думку, кінафестываль «Лістапад» з'яўляецца адным з важнейшых у складзе фестывальнага руху ў нашай краіне. Па-другое, ён выдзеліў міжнародны фестываль тэатральнага мастацтва «Панарама». Што датычыцца музычнага мастацтва, то кіраўнік ведамства назваў «Беларускую музычную восень».

«Кожны з фестываляў, якія я не ўключаю ў так званую пяцёрку топавых, сам па сабе вельмі важны, і без яго беларуская фестывальная палітра была б няпоўнай. Кожны займае сваю нішу і выконвае сваю пачэсную функцыю», – упэўнены міністр.

Адказваючы на пытанне аб фармаце фестывалю «Славянскі базар», Барыс Святлоў адзначыў, што ён задумваўся як музычны, але апошнім часам стаў шматмерным з-за наяўнасці тэатральных элементаў, кіно, кірмашоў мастацкіх рамёстваў. «Пры ўсім тым я лічу, што калі разглядаць яго з пункту гледжання вялікага мерапрыемства, то ўсё роўна сістэмаўтваральным элементам застаецца пеўчае мастацтва», – сказаў міністр.

*Кар. БЕЛТА.*

■ Уладзімір Скрабатун

# Мастакі абжываюць агрэсіўнае прыроднае асяроддзе ў Галубіцкай пушчы

Два гады таму ў рамках праекта аб пазітыўным бачанні будучыні Беларусі мы завіталі ў вёску Маргі. Нас зацікавіла сям'я Мельнічэнкаў – два браты, маці і бацька, якія прадалі ўтульную гарадскую кватэру і паехалі жыць у Галубіцкую пушчу. Не, нас здзівіла не тое, што людзі паехалі жыць у вёску, з якой сёння ўсе татальна збягаюць, а тое, што гэтая сям'я вырашыла заняцца агратурызмам і лічыць, што такі праект можа быць паспяховым, на якім можна някепска і зарабляць. Рэалізаваць сябе ў жыцці.

Сям'я вядзе гаспадарку досыць не традыцыйна: бульбу вырошчваюць у саломе, в'етнамскія свінні проста гуляюць па пушчы, ядуць мухаморы, ды вяртаюцца дадому, трусы жывуць ў вальерах (а не ў клетках), рыюць норы, плодзяцца... А ўжо праз пяць гадоў нам абяцалі паказаць у Маргах апельсінавы гай ды іншыя дзівосы... Фантастыка!

Але не прыйшлося чакаць і 2-гадоў, як нас ізноў запрасілі ў Маргі на мастацкі пленэр. Прыехалі. На ўзлеску стаяць тры вігвамы. Не, у іх жывуць не індзейцы, а мастакі з Мінска. Далей у лесе – яшчэ адзін «вігвам», але прыстасаваны пад прыбіральню. Ёсць і сталоўка – павільён з жэрдзяў, які накрыты саломай.



Валянціна Кісялёва і Раман Мельнічэнка.

Валянціна Кісялёва, дырэктар і куратар галерэі сучаснага мастацтва *"Ў"* у Мінску падзялілася планамі і чаканнямі гэтага пленэру, які адбываецца на агрkörсядзібе спадарства Мельнічэнкаў у Галубіцкай пушчы.

– Гэта ўжо наш другі праект экалагічнай кампаніі "Экадом". У мінулым годзе мы пачалі арганізоўваць падобныя мерапрыемствы як "Агракультурны Фэст". Разам працуюць экологі і мастакі. Новы аграрны лад жыцця, калі так можна сказаць. У мінулым годзе гэта быў двухдзённы фэст. Мастакі рабілі свае кампазіцыі. Але фэст складаецца і з мноства розных лекцый, гутарак, зносінаў паміж сабой, у тым ліку выстаў-продажаў сельскагаспадарчай экалагічна чыстай прадукцыі.

Фэст вельмі спадабаўся ўсім: мастакам, эколагам, наведнікам! Мы вырашылі працягваць арганізацыю падобных фэстаў. Цяпер згадаы фэст будзе мець штогадовы фармат.

Для прыкладу скажу: у мінулым годзе ў Мінску мастакі з гарбузоў, яблыкаў і іншай гароднiны стварылі вялізную піраміду, якая падсвечвалася з розных бакоў. Яна штораз змяняла колер. Быў запісаны адмысловы аўдыё-трэк, і гэтая піраміда крычала, плакала, размаўляла, смяялася… Такі жывы аб'ект, які нібыта казаў: "Давайце думаць аб экалагічным ладзе жыцця, аб экалагічна-чыстай прадукцыі!"

У гэтым годзе пад яго вырашылі прымацаваць такі пілотны мастацкі пленэр, калі мастакоў непасрэдна вывезлі з гарадскога асяроддзя. Такі пленэр і прапанаваў "Экадом". Тут – дванаццаць мастакоў, якія прыехалі ў Маргі з Мінска. Некаторыя з гэтых мастакоў ужо працавалі з тэмай экалогіі, а іншыя – ніколі. Ну, у гэтым ёсць таксама пэўны эксперымент. Нам важна і цікаўна – якая іх будзе рэакцыя. Сярод удзельнікаў пленэру ёсць мастакі, якія культывуюць толькі гарадскі лад жыцця і ніколі не займаліся над тэмай экалогіі. Таму прыжываем тут, дзе адсутнічае ўсялякая цывілізацыя. Уся наша цывілізацыя – пару электрычных разетак у сталоўцы, дзе можна зарадзіць мабільны тэлефон, пакарыстацца ноўтбукам.

Для нас важна паказаць, што чалавек – не цар прыроды, а – частка экасістэмы. Задача прысутных – жыць тут, узаемадзейнічаць, дапамагаць у нашай гаспадарцы, проста хадзіць назіраць, рабіць свае высновы. Мы выслухаем іх выказванні. Ужо ёсць адзінкавыя, але чакаем і калектыўныя. Пакуль яшчэ ідзе працэс – рабіць канчатковыя высновы рана. Аднак, ужо вызначыліся два творчыя накірункі рэалізацыі ідэй.

Адзін накірунак тут у Маргах – лясная дарога да ракі Шошы, дзе мастакі ствараць і выстаўляць некалькі аб'ектаў – З ці 5 – якія будуць тут знаходзіцца стала. Усё гэта зафатаграфуем, нават зробім у 3D-фармаце і прадставім на выставе ў Мінску як падарожжа па гэтым лясным масіве.

Іншы накірунак цяпер актыўна абмяркоўваецца, і, я думаю, ён будзе прыняты. Па прыездзе ў Мінск будзем шукаць невялічкія ўчасткі (зоны), дзе можна будзе беспершкодна высадзіць, напрыклад, азімыя, нейкае пустазелле, якое цяпер мэтанакіравана знішчаецца, гэта значыць – прыўнясенне экасістэмы ў горад. І ў прынцыпе, шмат хто даўно ў горадзе вырошчвае на сваіх балконах кветкі, а можна ж вырошчваць і нешта іншае. Гарбузы, напрыклад, (смяецца)! Агулам кажучы – пранікненне агракультуры ў горад. Гэта можа і мусіць быць у горадзе!

Зразумела, у рамках фэсту адбудзецца паказ вынікаў гэтага пленэру ў Мінску, праведзеныя нейкія дзеянні ў горадзе, а пэўная частка аб'ектаў, якія будуць створаныя ў выніку пленэру ў Маргах, перавязуць у галерэю *"Ў"* і там будуць прадстаўленыя. Зноў-такі адбудуцца лекцыі, сустрэчы і гутаркі з эколагамі, агрфермерамі. І, натуральна, мастакі, якія пабывалі тут на пленэры, будуць аб гэтым апавядаць. У нас у галерэі ёсць такі задні дворык, дзе плануем сумесна з эколагамі і мастакамі, зрабіць т.зв. прамдызайн – высадзіць кветкі і расліны ў форме нейкіх жывёлаў, смаўжоў, напрыклад. А перад галерэяй мяркуем стварыць невялічкі рынак, дзе будзе прадавацца экапрадукцыя. Спадзёмся атрымаць на тое дазвол. А ў бары, які існуе пры галерэі *"Ў"*, плануем зрабіць экатыдзень.

Падсумоўваючы вышэйсказанае, будзем спадзявацца, што ўсё гэта і надалей будзе мець працяг – ідэя, якая тут у нас узнікла, і звязаная з засваеннем мастакамі лесу, ідэя, якую падтрымаў і Раман Мельнічэнка. Мастакі ж не сухой мовай лектараў і эколагаў, а сваёй прываблівай, могуць паказаць харство і прыгажосць, зацікавіць і прыцягнуць гледача і патэнцыйнага пакупніка. Мы з Раманам абмяркоўваем і далейшыя планы, сярод якіх – сварэнне своеасаблівай галерэі ў лесе, каб штораз узнікалі нейкія новыя аб'екты. Каб было адчуванне – лес становіцца тваім, цывілізаваным! Не проста дзікі лес, а лес, у якім ты сябе камфортна адчуваеш. Каб у лесе былі розныя мастацкія кампазіцыі, якія той камфорт і стварылі б. Бо для большасці гарадскіх жыхароў лес – варожае асяроддзе. Вось, напрыклад, Лёша Лунёў, удзельнік пленэру, кажа: "Прырода, усё ж, агрэсіўная! Усё наўкола – гаманіць, шуміць, грыміць, кусаецца". Для каго як: адным – камфортна, іншым – гэтага не хапае. Значыць, у кожнага будуць свае вынікі: хтосьці здыме відэа, хтосьці створыць аўдыё работу, дзе гукі леса будуць спалучацца з гукамі гораду… Мова мастака – непрадказальная!

Нам у Маргах спадабалася! А напачатку было страшна і падумаць! Як сям'я (Мельнічэнкаў) з чатырох чалавек можа выжыць у такіх умовах! Рэальна – тут дзікае месца! Хацелася б працягнуць далейшае супрацоўніцтва з Раманам Мельнічэнкам, каб мастакі ў Маргах знаходзіліся стала, альбо змянялі часам адзін аднога.

Бывае так, што і ў гарадах ёсць пустыя прасторы, якія нічога не каштуюць, а прыходзяць мастакі, абжываюць іх – і тэрыторыя становіцца вельмі дарагой, тут узнікаюць кавярні, музеі, выставы… Вось тут, у Маргах, мы і чакаем такога выніку!



Твор «Цела Зямлі», работа мастака Анро.

# Ці хочаце Вы папрацаваць у германскім парламенце?

**Германскі Бундэстаг і тры ўніверсітэты г. Берліна штогод даюць магчымасць прыкладна 120 маладым людзям з 28 краін на працягу пяці месяцаў пазнаёміцца з працэсам прыняцця палітычных рашэнняў у Германіі.**

Міжнародная парламенцкая стыпендыя (IPS) прапаноўваецца выпускнікам вышэйшых навучальных устаноў, якія цікавяцца палітыкай і жадаюць актыўна ўдзельнічаць у грамадскім жыцці сваёй краіны. Падчас 15-тыднёвай стажыроўкі ў аднаго з дэпутатаў Бундэстага стыпендыяты змогуць атрымаць практычны досвед у сферы парламенцкай дзейнасці.

Сярод патрабаванняў да стыпендыятаў: узрост да 30 гадоў, скончаная вышэйшая адукацыя і вельмі добрыя веды нямецкай мовы.

**Пачатак стажыроўкі: 1 сакавіка 2014 г.**

Заяўкі прымаюцца ў Пасольстве Германіі ў Мінску да 31 ліпеня 2013 г.

Больш падрабязную інфармацыю Вы знойдзеце на сайце

Германскага Бундэстага **www.bundestag.de/IPS**

і Пасольства Германіі ў Мінску **www.minsk.diplo.de**

*УНН 101166185*

# Сцяжынкамі Язэпа Драздовіча

■ Зміцер Лупач

**Мастацкі пленэр, прысвечаны творчасці Язэпа Драздовіча, адкрыўся 15 ліпеня ў вёсцы Перадолы на Глыбоччыне. Ён праходзіць на бацькоўскай сядзібе Мар'яна Місевіча.**

Гэты пленэр з'яўляецца юбілейным – ён праходзіць ужо дваццаты раз. У яго працы бяруць удзел больш за дзясятак мастакоў, як знакамітых, так і пачынаючых.

Як адзначыла арганізатар пленэру Ада Райчонак, у кнізе "100 лепшых мастакоў свету", якая нядаўна выйшла ў Маскве, Беларусь прадстаўлена толькі двума мастакамі – Маркам Шагалам і Язэпам Драздовічам. Спадарыня Ада шмат зрабіла для таго, каб вярнуць незаслужана забытае імя нашага земляка.

Дарэчы, у кастрычніку гэтага года мы будзем адзначаць 125-годдзе з дня нараджэння Язэпа Драздовіча. У гэтыя асеннія дні Ада Эльеўна плануе зноў сабраць мастакоў на сядзібе Мар'яна Місевіча.

На адкрыцці пленэра прысутнічалі мастакі з Віцебску, Лепеля, Шаркоўшчыны, іншых гарадоў Беларусі, журналісты з Віцебску і Глыбокага, паэтка Марыя Баравік, бард з Бешанковіцкага раёна Георгій Станкевіч, а таксама госці з Падсвілля.

"Мы дабіліся таго, што імя Язэпа Драздовіча стала шырокавядомым, – адзначыла Ада Райчонак. – А калі я ў свой час ствараla музей, то нават адзін пакой, прысвечаны Драздовічу, не дазвалялі адвесці. Зараз ён ужо ва ўсіх энцыклапедыях лічыцца музеем Язэпа Драздовіча, а ў паперах райвыканкамаўскіх ён і зараз лічыцца музеем культуры і побыту. Хаця і шыльда ўжо даўно вісіць, што гэта музей Язэпа Драздовіча."

Ігар Саўчанка, малады мастак, які першы раз бярэ ўдзел у драздовіцкім пленэры, заявіў, што чакае ад сябе арыгінальных ідэй.

Святлана Баранкоўская, мастачка з Віцебску, якая лічыцца лепшым майстрам па габелену, прызналася, што яе вельмі ўразіла Бабруйшчына, куды яна ўжо паспела з'ездзіць. "Там яшчэ дзесяць год таму стаяў драўляны каталіцкі касцёл, адзіны касцёл такога плану ў Беларусі. Зараз ён ляжыць у руінах, праз іх ужо растуць дрэвы. Гэта вельмі сумна бачыць. А наогул я хачу пабачыць наваколле, пахадзіць па ім і маляваць, маляваць, маляваць… Мне хочацца адчуць нагамі, як гэта жыць у цэнтры Еўропы і яшчэ ў такіх умовах."

Падчас вячэры гасцей парадаваў сваімі новымі песнямі бард з Бешанковіцкага раёна Георгій Станкевіч. Спадар Георгій працуе ў школе настаўнікам нямецкай мовы, трымае вялікую гаспадарку і яшчэ паспявае пісаць вельмі цудоўныя песні.

У хуткім часе да ўдзельнікаў пленэру павінны далучыцца знакамітыя мастакі з Мінска Алесь Марачкін і Мікола Купава. Праз тыдзень мастакі прадставяць свае работы. Па выніках пленэру будуць праведзены выставы ў гарадах Беларусі.

Напрыканцы хочацца пажадаць удзельнікам мастацкага пленэру творчых поспехаў!

*Тэма мае працяг у наступных нумарах газеты.*

